Год V. 1927. ЛІПЕНЬ. V-ая кніжка.




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест.



ЦАНА асобнага нумару з дастаўкай да хаты 30 гр.

Друкарня С. Бэкера Вільня. Субоч 2.

# САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.


## Балючае пытаньне нашае вескі.

Калі наша вёска вельмі мала падатная на які небудзь поступ у сельскай гаспадарцы, на яе паляпшэньне, дык па драбленьню і без таго дробных нашых гаспадарак, мы, пэўна, стаім на першым месцы сярод другіх народаў. Дробныя бядняцкія гаспадаркі, дзякуючы частым падзелам, растуць у нас, як грыбы пасьля дажджу. Каб ня быць галаслоўным і каб падкрэсьліць гэту думку,—прыводжу прыклад з вядомай мне вёскі, (Рымкі Пастаўскага п.), дзе ў 1920 г. было ўсяго 22 гаспадаркі а ў 1926 г.—39. Як бачым, за 6 гадоў утварылася амаль у два разы больш гаспадарак. Усе новастворанын гаспадаркі самыя бядняцкія і рэдка якія маюць 3 дзесяціны зямлі.

Цяпер задзержымся на самым працэсе нараджэньня гэтых карлікавых гаспадарак, якія, як кажуць: „ні жыць не даюць, ні жабраваць ня пускаюць“. Малады хлапец гадоў 18—20 *) ужо ажаніўся. Пажыўшы кароткі час, праз якое небудзь глупства пачынаюць спрэчкі (найчасьцей за жанчын). Спрэчкі раздуваюцца і хлапец, які ўжо стаўся селянінам і бацькам, не падумаўшы, дамагаецца падзелу. Бацька, ці старэйшы брат, сьпярша гэтаму пярэчаць, але бачучы, што заўсёдныя спрэчкі, сваркі, якія часам даходзяць да бойкі, нічога добрага ня суляць, махае рукой, і гаспадарку разрываюць на некалькі частак.

Малады гаспадар дастае якую-небудзь будыніну на хату, трысьцен, карову і добра яшчэ, калі на яго долю выпадае конь. Вось і ўсе прылады і ўся рухомасьць і нярухомасьць маладога гаспадара. Пачынаецца цяжкая і марудная праца яго. Праўда, спачатку ў яго шмат энэргіі, уздыму, з якімі ён пачынае адбудоўваць сваю гаспадарку, але, сустракаючыся на кожным шагу з нястачамі, уздым хутка прападае. У новага гаспадара няма патрэбнага лесу на адбудову хаты і іншых будынкаў, няма засобаў, каб набыць недастаючую

---

*) У апошнія часы істнуе забарона жаніцца, пакуль хлапец не адбудзе вайсковай службы.

жывёлу, няма мёртвага інвэнтару (плуга, бараны). Праходзіць час за маруднай працай, малады гаспадар, сьпярша пэўны ў самога сябе, траціць надзею на паляпшэньне свайго быту, бо гаспадарка, як была бядняцкай, такой і асталася. Жыве ў хаце з адным вакенцам бяз усякай абсталёўкі. Малыя дзеткі часта ня бачаць малака, нядобра і жонцы спраўляцца і з працай па гаспадарцы і з малымі дзеткамі. Вось у гэту хвіліну ў новага гаспадара пачынае радзіцца думка: „Ці ня кінуць усё гэта, бо ўсё роўна з бяды ніколі ня выбіцца, і ўцякаць кудысьці“.

Але куды?

Вось сумны абразок з жыцьця нашае вёскі, бачыць які прыходзіцца па ўсіх кутках нашае Бацькаўшчыны ў межах Польскае Рэспублікі.

Што-ж за прычыны, выклікаўшыя гэтыя раптоўныя і непажаданыя для нашага эканамічнага адраджэньня зьявішчы?

Прычын драбленьня сялянскіх гаспадарак шмат, але ня буду мыліцца, калі скажу, што галоўнай прычынай тут будуць палітычныя і сацыяльныя абставіны нашага жыцьця. Да вайны, калі нашаму падрастаючаму маладому пакаленьню пачынала цесна жыць на бацькаўскай гаспадарцы, лішнія рабочыя рукі знаходзілі сабе працу ў гарадох на фабрыках, заводах і ў іншых прамысловасьцях; ехалі ў Амэрыку, пераяжджалі цэлымі сем'ямі ў Сыбір, займалі ў арэнду ці на часьць двары і засьценкі, набывалі сабе пры дапамазе Сялянскага Зямельнага Банку, хоць і на вельмі цяжкіх варунках, кусочак зямлі. Маладыя хлапцы і дзяўчаты йшлі ў школы, па сканчэньні якіх займалі пасады і г. д. і г. д.

А цяпер?

Адыход лішніх рабочых рук у гарады на фабрыкі і заводы для нас спыніўся, бо былыя фабрычныя і заводзкія цэнтры, як Ленінград, Масква, Рыга, Лібава, Данецкія шахты, Сыбір для нас Рыскім Міравым Трактатам зачынены. Двары і засьценкі браць у арэнду і на часьці, дзякуючы „аграрнай рэформе“ становіцца нам з кожным годам цяжэй і амаль немагчымым. У істнуючыя фабрыкі і прамысловасьці ў межах Польшчы беларускаму селяніну сягоньня праціснуцца амаль што немагчыма. Набыць сабе кусочак зямлі, каб пашырыць свой надзел, для нашага селяніна і болей заможнага цяжка. А як-жа набудзець той, хто „ня мае за душой і меднага гроша“? Школаў сваіх, ня толькі вышэйшых і тэхнічных, але і пачатковых мы ня маем, а пра урадовую пасаду беларускаму селяніну-інтэлігэнту сягоньня і ня сьніцца.

Вось усё гэта і выклікае драбленьне нашых гаспадарак, што даўна спынілася ў Заходняй Эўропе і чаму ў апошнія

часы робіцца перашкоды і на Усходзе. Там, каб падзяліцца сябром сям'і, трэба спэцыяльны дазвол, бо ў праціўным выпадку наваствораная гаспадарка ня лічыцца праўна за самастойную.

Што-ж нам трэба рабіць у сучасны мамэнт, каб спыніць драбленьне вясковых гаспадарак—гэтае хваравлівае зьявішча нашай вёскі і гэтым самым ратаваць сельска-гаспадарчую прамысловасьць?

Каб даць адказ на гэтае пытаньне, мы мусім пакуль што адкінуць думку аб „аграрнай рэформе", ад якой беларускаму селяніну сягоньня ратунку спадзявацца ня прыходзіцца і зьвярнуцца да гісторыі раней паняволеных народаў, як чэхі, латышы, фіны і інш. Ня бачучы ратунку ад чужой ім улады, яны пастараліся знайсьці яго ў сябе. Яны не паклалі рук з адчаю і не чакалі, што іх хтосьці выведзе з бяды, а пры дапамозе лепшых сваіх братоў-інтэлігэнтаў пачалі будуваць сабе лепшае жыцьцё і ў паняволеным стане, на што ўлажылі ўсю сваю энэргію і спрыт. Яны ў першую чаргу паднялі вытворчасьць сельскае гаспадаркі шляхам палепшаных спосабаў апрацоўкі зямлі, як таго вымагала навука; яны хутка пакрылі сваю старонку living rознымі культурна-прасьветнымі пляцоўкамі; яны стварылі цэлую сетку хаўрусаў, каапэратываў, якія адбіралі лішнія рабочыя рукі ад сельскае гаспадаркі, якая ў сваю чаргу, дзякуючы лепшым спосабам апрацоўкі зямлі, трэбавала больш рабочых. У выніку ўсяго гэтага ў іх старонку і пазбаўленую палітычнае свабоды, пацяклі і з другіх месцаў грошы, якія сяляне няслі ў свае крэдытныя таварыствы і банкі, дзе і бяднейшы селянін у цяжкую хвіліну безграшоўя знаходзіў сабе дапамогу. Іх старонка багацела, разьвівалася, багацеў і селянін, багацела і гаспадарка.

Сяляне, ці-ж не красамоўна кажуць нам штосьці гэтыя прыклады?

---

# Трохпольле, як галоўная прычына малаўраджайнасьці нашых палёў.

Мусіць нішто так не перашкаджае разьвіцьцю сельскае гаспадаркі ў нас, як наша трохпалёўка. Шмат кніг і брашур напісана і пішацца, як збавіцца ад таго зла, якое нясе гаспадарцы і цэлай нашай Бацькаўшчыне вядомы ўсім падзел зямлі з чарадаваньнем аднолькавых па вымаганьню ад зямлі расьлін, але і сягоньня, як 300—400 гадоў назад, гэты падзел на тры полі з незанятым культурамі папарам

моцна дзержыцца у нас і, як быццам, яму не прадбачыцца канца. Вёска, хутары і нават буйныя засьценкі і двары так зжыліся з трохпалёўкай, што мала надзеі, каб з ей, асабліва ў нашай вёсцы, хутка разьвіталіся і перашлі ад шкоднага трохпольля да палепшаных севазваротаў.

Разважаючы над прычынамі панаваньня ў нашай сельскай гаспадарцы трохпольля, прыходзіцца падкрэсьліць, што побач з другімі—галоўнай прычынай усё-ж-такі будзе наша культурная адсталасьць, наша малае зацікаўленасьць кніжкай наагул, а тым больш сельска-гаспадарчай. А вынікам усяго гэтага ёсьць тое, што нашы і перадавыя гаспадары мала ўяўляюць сабе, што за шкоду нясе яму трохпалёўка і як пазбавіцца ад яе.

Пры нашым голадзе на зямлю, шчыльнасьці жыхарства і адсутнасьці амаль усякай прамысловасьці—недахопы трохпалёўкі адчуваюцца асабліва востра. Над гэтымі недахопамі яе мы тут і задзержымся, каб потым у наступных нумарох „Сахі“, чытачы нашы маглі лепш арыентавацца пры разглядзе палепшаных севазваротаў, што будзем рабіць у працягу некалькі нумароў.

Як кожнаму вядома, што пры трохпольлю $^1/_3$ частка ўсей зямлі астаецца пад незанятым папарам. Як паша, папар ня можа адказваць свайму вызначэньню, бо ўсім вядома, што скаціна на ім не пасецца, а галадуе. Практыкай дазнана, што на папары, каб на ім не пасьціць скаціну, можна атрымаць 30—40 пудоў сена, у той час, як канюшына, ці выка дае да 200 пудоў першаякастнага корму. Што-ж тычыцца другой задачы папару—падрыхтаваць зямлю пад пасеў азіміны, дык і тут гэтага гаспадар не дасягае, бо ня можа быць гутаркі, што стоптаная скацінай зямля, якая арэцца ў канцы чэрвеня, а месцамі і пазьней, можа падрыхтоўваць спажыву для наступнага збожжа. Процiў гэтага красамоўна кажуць амаль усе дасьледы, што жыта расьце лепш пасьля выка-аўсянага папару, чым незанятага.

Запасу гною мы ня маем і на палову нашага папару, а пры зернявым кірунку гаспадаркі, супутнікам якой зьяўляецца трохпалёўка, якраз бяз гною нельга спадзявацца памысных ураджаяў.

Эканамічныя ўмовы больш усяго спрыяюць разьвіццю на Беларусі жывёлагадоўлі, што вымагае пашырэньня плошчы пасеваў кармавых траў і корань-плодаў. Пры трохпалёўцы для гэтых культур няма суадказнага месца.

Сельская гаспадарка нашага часу з кожным днём выходзіць з натуральнага стану *) і робіцца ўсё больш грашовай: яна шмат купляе, а таму адчуваецца вялікая патрэба

*) Пры натуральнай гаспадарцы сам гаспадар здабываў усё патрэбнае для сябе ў сваей гаспадарцы і не залежаў ад рынку і грошаў.

ў грашох. Побач з прадуктамі жывёлагадоўлі можа здавальняць гаспадарку грашмі лён. Трохпалёўка і для лёну ня мае месца, бо пускаючы культуру лёну пасьля жыта, а потым жыта пасьля лёну, мы агаляем зямлю.

Пры трохпольлю селянін, сілаю складзеных абставінаў, мусіць культываваць больш усяго зернявыя расьліны, як жыта, пшаніцу, ячмень, авёс і інш. Усе гэтыя расьліны, дзякуючы аднолькавым вымаганьням ад зямлі, апошнюю аднабакова спаражняюць, гэта знача выцягваюць з яе ўвесь запас азоту, фосфару, пакідаючы шмат нескарыстнага паташу (калія), асабліва на грунтах глiністых і сугліністых (крашаках). Названыя расьліны могуць браць сабе спажыву з лёгка ўжыванай формы і з верхняга слою зямлі; між тым увядзеньне ў севазварот расьлін з сям'і бабовых можа павялічыць запас найкаштаўнейшым складнікам-азотам, можа перавясьці спажыву з ніжэйшага (мёртвага для некаторых збожжаў) слою ў верхні і гэтым падняць яго ўраджайнасьць. Лубін і інш. расьліны бяруць спажыву з таго стану, з якога наша збожжа браць няздольна. Усё гэта кажа пра карысьць ўвядзеньня і чарадаваньня між сабою расьлін так, каб разумнай зьменай збожжа зямлю ня высільваць, а побач з лепшай апрацоўкай і правільным угнаеньнем падняць яе працаздольнасьць да найвышэйшай ступені. Пры трохпалёўцы, нават і пры палепшанай *) гэтага дасягнуць нельга. Гэта ўсё вымагае, як найхутчэй замяняць яе на шматпольле з пладазьменным севазваротам.

**У. Павалковіч**

# Рыхтуйцеся да пасеву азіміны.

Насеньне, якім мы абсяваем сваё поле, мае вельмі нізкую ўсходжасьць. Апроч гэтага, насеньне нашага жыта і пшаніцы мае ў сабе шмат бырьля і сьмецьця.

Лепшым насеньнем будзе тое, якое можна выдастаць пасьля доўгага адбору (сэлекцыі). На Энгельгардтаўскай с.-г. дасьледчай станцыі (у Смаленшчыне) такое адборнае насеньне жыта і пшаніцы дае шмат больш ўраджай, чым нашы мясцовыя сарты.

Купіць сартовага насеньня цяпер у нас цяжка; дзеля таго трэба здабываць лепшае насеньне ў сваей гаспадарцы.

Трэба, каб гаспадар выбраў загадзя лепшыя кавалкі жыта ці пшаніцы на насеньне. Малаціць насеннае збожжа трэба цапамі або малатарняй. Абіваць снапы, як гэта робяць некаторыя сяляне, ня можна, бо пры гэтакім спосабе, хаця

*) Пры палепшанай трохпалёўцы ўводзяць заняты папар і пасеў траў.

і вылятае буйнае зярнё, але разам з гэтым робіцца адбор зярнят, якія нямоцна дзержацца ў коласе. Такое жыта ці пшаніца будзе лёгка высыпацца ў полі. Сушыць снапы перад малацьбой тут у ёўнях (асецях) ня раіцца.

Збожжа, якое вызначана для засеву, абавязкава павінна быць адсартавана, добра было-б каб гэта зрабіць на спэцыяльных машынах, каторыя лепш набываць супалкаю.

Насеньне, якое ўжо адсартавалі, абавязкава трэба спрабаваць на ўсходжасьць. Мала ўсходнае насеньне трэба або саўсім збракаваць, або сеяць гусьцей.

Высяваць у нас жыта трэба на дзес. 8 п. 30 ф. пры раскідным пасеве і 6 п. 30 ф. пры радковым і пшаніцы 8 п. пры раскідным і 6 п. 30 ф. пры радковым.

Радковы пасеў больш карысны, чым раскідны: ён патрабуе менш насеньня; сяўнік радковы (трэба набываць сялянам таксама супалкаю) кладзе зярняты роўнымі радкамі, засыпаючы іх на аднальковую глыбіню; расьліны ўсходзяць разам і не перашкаджаюць адна другой у часе росту.

Час для пасеву азіміны у нас будзе—для жыта з 28 жніўня да 7 верасьня, а для пшаніцы з 28 жніўня да 14 верасьня (па новаму стылю). Жыта, калі яго высеяць у гэты тэрмін, да зімы раскусьціцца (пагараніцца) і выходзіць добрым вясною з-пад сьнегу. Пшаніца-ж, якая граніцца (кусьціцца) і вясною, высеяная ў гэты тэрмін, мае час да зімы ўзмацаваць свае карэньні і зімою не баіцца марозаў.

Гушчыня пасеву залежыць ад якасьці насеньня; насеньне буйнае, чыстае і добрай ўсходжасьці, а таксама радковым спосабам, сеецца радчэй. На добрай і ўгноеннай зямле і пры раньнім пасеве—насеньня трэба менш, а на спустошанай зямле і пры позным пасеве—больш. Такім чынам пасеў залежыць ад якасьці насеньня, зямлі, тэрміну і спосабу самога пасеву.

**А. К.**

# Як вырабіць добрае валакно лёну.

Калі лён ужо сабраны і абмалочаны галоўкі, тады гаспадар цікавіцца, як дастаць больш добрага валакна. Якасьць-жа валакна залежыць ад таго, як вырабляецца лён.

Пачаткам апрацоўкі зьяўляецца падрыхтоўка лёну для аддзяленьня валакна ад ільняных сьцяблоў. Гэта дасягаецца тым, што мочаць лён або сьцелюць на зямлі. Мачэньне лёну можа быць або ў цякучай вадзе рэчак, або ў стаячай вадзе вазёр ці спэцыяльна зробленых капаніцах (сажаўках). Але не ўва ўсіх гэтых мясцох мачэньне лёну дае добрае валакно. Для дастаньня добрага валакна патрэбна, каб вада

была мяккая, чыстая, мала мела вапны і жалеза. У мясцох з **блізкай глінай і чырвоным пяском вада заўсёды дрэнная для вымачкі лёну**, бо тут бывае шмат жалеза, што шкодзіць якасьці валакна.

Лепш мачыць лён у цякучай вадзе. *) Для гэтага робяць з жэрдак скрынку даўжынёй прыблізна 6 ар., шырынёй 3 арш. і вышынёй 1—$1^1/_2$ ар. Дно скрынкі лепш зрабіць з дошчак (каб яно было шчыльнейшым). Перад укладаньнем у яе лёну, трэба адабраць большыя сьцяблы ад меншых. Снапы шчыльна ўкладаюць у такую скрынку, камлямі ў бок сьценак, а зьверху пакрываюць вяршкоў на 1—$1^1/_2$ саломай. На салому кладуць жэрдкі і зьверху накладаюць камені, набракшыя вадой абрубкі дзерава ці дзярно, пакуль уся скрынка ня будзе затоплена ў вадзе.

Калі такіх месц для мачэньня лёну няма, дык трэба капаць ямы-капаніцы. Такія капаніцы (сажаўкі) абсаджваюць навокал альхой. Велічыня іх бывае розная, у залежнасьці ад колькасьці лёну. Часьцей бываюць $1^1/_2$ саж. шырынёй і да $2^1/_2$ саж. даўжынёй. Для мачэньня ў такіх капаніцах снапы лёну ўкладаюць шчыльна, упіраючы карэньнем у сьценкі, а можна снапы і ставіць; а далей робяць так, як і ў першым выпадку. Быстрыя рэчкі зусім нягодны для мачэньня лёну.

Трэба глядзець, каб лён не перамок, бо тады ён робіцца слабым, пасьля апрацоўкі пухлявым, траціць „лоск“ і амаль ня ўвесь ідзе ў пакульле.

Дрэнна таксама, калі лён і не дамокне. У гэткім выпадку валакно дрэнна адстае ад сьцябла, бывае жорсткае, на ім дзержыцца шмат кастрыцы, чаму амаль ня ўсё сьсякаецца пры далейшай апрацоўцы.

Зразумела, лепш будзе, калі лён выцягнены з вады ўчас. Час мачэньня залежыць ад пагоды. Калі цёплая пагода і цёплая вада, то лён можа быць гатовы праз 12 дзён, а калі сьцюздзёная—праз 4, і нават больш, тыдняў. Калі вада мае 18°R, дык лён можа вымакнуць праз 9—10 дзён. Каб учас выняць лён, трэба кожны дзень браць жменю сьцяблоў, высушваць іх і мяць. Калі валакно добра і лёгка аддзяляецца ад сьцябла, дык лён пара вымаць.

Дастаўшы лён з вады, сьцелюць яго на лужайцы, каб прасох і трохі выбеліўся. Пасьля прасушкі зьвязваюць у снапы і звозяць.

Гэта так робіцца пры вадзяным мачэньні, але ў нас часьцей лён сьцелюць (расяное мачэньне). Лепшым месцам

*) У нас гаспадары—ільняводы лічаць, што валакно ад мачэньня ў рэках бывае легкае па вазе і не саўсім мяккае. Увага Рэдакцыі.

для сланьня лёну трэба лічыць роўныя сенажаці і канюшынішчы. Ніколі ня трэба слаць лён па іржышчы (пожні), бо тады валакно бывае вельмі дрэннае (пакрываецца іржою). Сьцелюць лён увосень ці вясной.

Лён сьцелюць радкамі на паверхні сенажаці роўнымі пластамі не таўсьцей $^1/_2$ в. Калі пагода вогкая (вільготная) і цёплая, то лён можа вылежацца праз 3 тыдні, а калі сухая, дык павінен ляжаць значна больш. У час налогу трэба лён перавярнуць на другі бок хоць адзін раз, ад чаго ён раўней адлежваецца. Час прыбіраньня яго азначаецца таксама, як і пры вадзяным мачэньні.

Пасьля мачэньня лён сушаць, мнуць і трэплюць, каб аддзяліць валакно ад сьцябла. Мяць можна рукамі, але лепш машынай ці цернiцай, бо яна добра ломіць сьцябло на кавалкі і ня рве валакно. Работа нашых простых мяльніц дрэнная і ад яе трэба адмовіцца. Атрэпаны лён лічыцца гатовым на продаж, але карысьней гаспадару зрабіць сартаваньне яго, што ў нас бывае рэдка.

Абагулім-жа ўсё так:

1) Лён перад мачэньнем неабходна сартаваць.

2) Лепшым месцам для мачэньня будзе чыстая ад вапны і жалеза вада.

3) Лепш слаць лён на сухіх сенажацях і канюшынішчах

4) Трэба лён пераварачваць у часе ляжаньня.

5) Лепш мачыць і слаць лён вясной.

6) Прадаваць лён лепш сартаваны. (Часопіс „Плуг“)

**А. Савельеў**

# Што трэба рабіць, калі ў гаспадарцы зьявіўся яшчур (язычніца).

Калі яшчур зьявіўся ў адным або ў дзьвёх-трох сядзібах і ў той час, калі скаціна стаіць па хлявох, дык можна суровымі мерамі ня пусьціць пашырэньня хваробы. У такіх выпадках трэба, каб у заражаны двор нікога ня пускаць і нічога не пераносіць.

Ня толькі людзі і жывёла, але нават сабакі, кошкі і птушкі могуць вынесьці заразу з недабрабытнае сядзібы. Ня толькі з кормам ці з вадапойным вядром, але і на вопратцы, ботах і інш. можна разьнесьці заразу. Дзеля гэтага трэба на варотах такое сядзьбы напісаць:

**„Тут яшчур, асьцерагайцеся“.**

Якія меры прымаюць, калі яшчур зьявіўся на скаціне ў час пашы?

Калі яшчур зьявіўся на скаціне ў час пашы, дык тады хвароба хутка ня скончыцца і ёю перахварэюць не 1—2 галавы. Трэба загадзя ведаць, што перахварэе ўся скаціна, а таму трэба прымаць меры адразу да ўсяго статку, калі ў ім знайшлася хоць адна хворая карова.

Яшчур перабярэ ўсе каровы у стадзе ці гаспадарцы, і хвароба будзе цягнуцца без канца. Выздаравеўшая жывёла часам захварэе ў другі раз. Гэта вельмі стратна для гаспадароў, бо ўвесь гэты час яны ня могуць свабодна пераводзіць і перавозіць жывёлы, корм і прадаваць на бок малако. Адсюль ясна, што чым хутчэй скончыць з яшчурам, тым менш будзе страты.

Папярэдзіць-жа захварэньне на яшчур вялікага стада зусім няцяжка: трэба знарок пераразаразіць усю жывёлу ў стадзе ў адзін час. Гэта робіцца так: бяруць на чыстую мылкую анучку сьліну хворай жывёлы і гэтай анучкай націраюць язык ці дзясны яшчэ здаровай жывёле, ад чаго апошняя лёгка захварэе на яшчур. Гаспадар гэта ведае, лепш глядзіць за ёю,—і ў гэтакіх выпадках хвароба праходзіць лягчэй.

Пераразаразіўшы аднначасова ўсё стада, можна разьлічваць, што тыдні праз 3 хвароба ў стадзе скончыцца.

Далей трэба старацца, каб яшчур не пераняcьці з сваей вёскі ў другую, яшчэ добрабытную. Дзеля гэтага ня трэба хадзіць туды і вазіць адтуль корм, малако і малочныя прадукты. Ня трэба пушчаць да сваей скаціны ў хлявы гандляроў, а таксама скупшчыкаў скур, шэрсьці і іншых прадуктаў.

Трэба ачысьціць ад гною свае надворкі, бо ў гнаі доўга захоўваецца зараза яшчура. Трэба безадкладна зьвярнуцца да вэтэрынара, каб ён даў параду адносна яшчура.

**Як лячыць хворую жывёлу?** Для лячэньня хворае жывёлы неабходна перш за ўсе чыстата; даваць мяккі, сакавіты корм, асабліва пры захвараньні ў роце. Бяз гэтых умоваў ніякае лячэньне не пасьпешыць выздараўленьня.

Лякарстваў пры яшчуры прымяняюць даволі многа. Дзеля змазваньня балячак у роце ўжываюць слабы рашчын галыну, буры, салянога квасу, крэаліны і інш.

Пры захвараньнях вымя—яго трэба абавязкова добра здойваць, але рабіць гэта трэба вельмі асьцярожна. Балячкі на вымі змазваюць борнаю, або цынкаваю масьцяю. Калі капыты трымаюцца чыстымі і сухімі, то лячыць іх амаль што і ня трэба. Балячкі-ж на капытох звычайна змазваць добрым дзёгцем на палову з алеем.

Лепш-жа за ўсё зьвярнуцца да вэтэрынара.

**Вэтэрынар М. Жарын.**

# Чым хварэюць куры і як іх лячыць.

У кожнай гаспадарцы, дзе трымаюцца куры найбольшую страту прыносяць заразьлівыя хваробы, да якіх належаць наступныя:

**Дыфтэрыт.** Ад'знакі: птушка становіцца нуднай, страчвае апэтыт, сядзіць з апушчанымі крыльлямі. Грэбень і барадаўка марнеюць, становяцца сухімі і гарачымі. Пры аглядзе роту і горла можна заўважыць плёнкі, па ўдаленьні якіх застаюцца крывавістыя месцы. У птушкі зьяўляюцца сьвісьцячыя хрыпы, дыханьне ўтрудняецца і птушка прападае ад задушэньня.

Лячэньне: рот і глотку трэба змазваць растворам крэаліну ці лізолу 2% альбо мешанінай ёду з гліцэрынай (1 : 2), унутр даюць 2% раствору таніну па чайнай лыжцы 3 разы ў дзень; 1-2 разы ў суткі робяць удыханьне дзягцярнага пару.

**Халера.** Ад'знакі: здаровыя навід куры раптам становяцца нуднымі, апэтыт страчваецца, зьяўляецца дрыготка, цяжкая паходка, крыльлі апушчаны. З роту і носу цячэ сьлізь, спачатку бела-жоўтага колеру, а потым зялёнага з няпрыемным пахам. Грэбень сінее і паступова пераходзіць у фіялетавы, зьяўляюцца сударагі, учасе якіх і наступае сьмерць. Працяжнасьць хваробы ад некалькі гадзін да 2—3 дзён.

Лячэньне: унутр даюць саляную кіслату 1% раствору па 1 сталовай лыжцы ў дзень. Таму, што гэта хвароба прычыняе вялікія страты сярод курэй, дык пры зьяўленьні яе здаровым птушкам трэба зрабіць забясьчваючыя **прышчэпкі**, а захварэўшых лепш усяго забіць, пакуль не заразіліся астатнія; трупы іх трэба спаліць ці закапаць глыбока ў зямлю. У птушніках-жа і дварох трэба зрабіць дэзынфэкцыю.

**Сухоты.** Гэта даволі распаўсюджаная хвароба сярод курэй, дзе ўтрыманьне і дагляд іх не здавальняючыя. Захварэўшая курыца пачынае бяз прычыны кульгаць. Апэтыт нармальны і нават павялічаны, але птушка відочна мізарнее, ня гуляе і забіраецца ў цёмныя месцы. Грэбень і сьлізістыя абалонкі становяцца бледнымі; зьяўляецца пранос, пасьля чаго птушка страчвае апэтыт і прападае.

Лячэньня пры гэтай хваробе няма. Ляпей хворую птушку забіць і тым самым забясьпечыць іншых ад захварэньня. Неабходна пры гэтым зрабіць дэзынфекцыю птушніка і двара.

**Галоўныя меры барацьбы з заразай.** Галоўнай умовай барацьбы з заразнымі хваробамі зьяўляецца недапушчэньне распаўсюджваньня іх. Гэта дасягаецца: 1) поўным аддзяленьнем хворай і падозранай птушкі ад здаровай, і 2) дэзынфэкцыяй птушніка і двара, дзе хадзіла хворая птушка.

Вэтурач **М. Жарын.**

# Гутарка пра нашы сенажаці.

**Балоцістыя сенажаці**. Калі з сухімі сенажацямі, якія прышлі ад нядбаласьці гаспадара ў дзікі стан, каб іх палепшыць—работа ня вельмі складная (глядзі папярэдні нумар „Сахі"), дык гэтага нельга сказаць пра мокрыя сенажаці. Агульна прызнаных правіл для паляпшэньня балоцістых сенажацяў няма, ды і балоты па натуры сваей бываюць розныя.

Галоўнымі недахопамі мокрых сенажацяў зьяўляецца лішка вады і брак пажыўных сокаў для расьлін, ад чаго на мокрых сенажацях растуць дрэнныя балотныя травы.

У культурна-заходніх краінах, асабліва ў Нямеччыне, у скарыстаньні балот дасягнулі значных вынікаў, дзе працай над балотамі кіруюць балотныя дасьледчыя станцыі. У Заходняй Беларусі гэтакай станцыі няма, а даннымі Менскай балотнай станцыі нам, нажаль, карыстацца амаль што немагчыма, ня гледзячы на тое, што гэта станцыя ў апошнія часы шырока разьвіла сваю працу над вывучэньнем спосабаў паляпшэньняў мокрых сенажацяў, у чым ёй удалося дасягнуць значных вынікаў.

Якое-б ня было балота, будзь гэта асокавае, торфяное, ці пераходнае, для якіх-бы мэтаў гаспадар ня думаў балота ўжываць: пад палявыя расьліны, сенажаць, выган для скаціны, або для ўжываньня торфам, як апалам ці ўгнаеньнем—усялякую працу пачынаюць перш з асушкі. Ад правільнага выкананьня асушкі балот залежыць пасьпех працы. Пры асушцы трэба мяркавацца: для якой мэты гаспадар думае ўжываць балота. Калі яно мае быць ужывана для палявых расьлін, балота трэба асушаць глыбей, а для сенажацяў узровень грунтовых вод зьніжаюць менш глыбока. Зьніжэньне грунтовых вод пад выган трэба рабіць глыбей, чым пад сенажаць, і мялей, чым пад палявыя расьліны. Зьніжэньне грунтовых водаў рэгулюецца глыбінёй канаваў і іх адлегласьцю адной ад другой.

Асушваюць мокрыя сенажаці двама спосабамі: адкрытымі равамі і закрытымі. Апошні мае перавагу перад першым дзеля таго, што эканоміць плошчу зямлі, усоўвае перашкоды ў часе працы на сенажаці і патрабуе менш рамонту. Каб асушыць вялікія абшары балота, перш трэба зрабіць плян асушкі яго, што вымагае спэцыяльнасьці інжынэра. У праціўным выпалку ўся праца і кошт гаспадара можа даць яму адну страту. На малых кавалках часта можна пачынаць асушку і самому, калі гаспадар добра ўявіць сабе, дзе капаць равы, якой глыбіні, на якую адлегласьць правадзіць канавы, для якой мэты асушка робіцца і г. д.

Пры асушцы перш праводзяць галоўную канаву, якая мусіць быць пакірована ў натуральнае вадазборышча (возера, рака), а потым капаюць бакавыя канавы. Галоўную канаву праводзяць па самаму нізкаму месцу, для пазнаньня чаго служаць розныя спосабы. Здараецца, што калі праз балота цякла рэчка, якая ўжо зарасла травою, дык галоўную канаву трэба вясьці па яе рэчышчу, дзе большы нахіл. Для гэтай-жа мэты карыстаюцца і вясновым разводзьдзем: дзе больш зьбіраецца вады, кірунак стоку яе і паказвае месца для галоўнай канавы. Калі тут яшчэ гаспадар парупіцца азначыць усе выкрутасы стоку вясновай вады, дык яму лёгка будзе выбраць і правільны кірунак галоўнай канавы. Гэтыя канавы заўсёды капаюцца адкрытымі, глыбей і шырэй бакавых. (Як праводзіць бакавыя канавы, розглядзім у асобным нумары „Сахі“).

Капаньне канаваў лепш расьцягнуць на два-тры гады, каб балота асядала паступова.

Часта бывае неабходнасьць у сухі год падняць узровень грунтовых водаў,—тады робяць застаўкі. Застаўкі большаю часткаю робяцца толькі на галоўных канавах, ад чаго грунтовая вада падымаецца і ва ўсіх бакавых канавах і разходзіцца па ўсей плошчы асушанай сенажаці.

Засеў траваў або расьлін трэба пачынаць толькі тады, калі верхні слой сенажаці будзе добра выраблен воркай і выраўнен. Раўнаваньне асушанай сенажаці патрэбна дзеля таго, каб мець аднолькавую вогкасьць (вільгаць), бо лішне сырая зямля будзе шкодзіць узросту траваў.

Канец будзе.

**Лугавод.**

# Што трэба рабіць цяпер у садзе.

Нашы сады шмат дзе пасаджаны густа, ад чаго кароны пры разросту дрэў пачынаюць засыхаць, сад запушчаецца і перастае быць ураджайным. Недахоп ад густой пасадкі лепш усяго можна заўважыць летняй парой, як сад апранецца ў зялёнае ўбраньне. Неабходна ў запушчаных садох шукаць магчымасьці даць дрэвам абшар 8—11 мэтраў (12—16 арш.). Амаль не палову дрэў, каб сад ураткаваць, трэба будзе выкінуць. Гэта мерапрыемства павінна быць праведзена, бо інакш старыя сады будуць зьнішчаны.

Сухое гальлё можа быць прымечана летам і зазначана надрубкай, каб рана вясной выпілаваць.

Узяць за правіла, раз на працягу хаця-бы 3 гадоў плошчу саду падняць. Дзе месца высокае і вада ня так

блізка, араць можна і летам, калі гаспадар мае вольны час. Аднак лепшай парой для воркі саду трэба лічыць вясну ці восень.

Неабходна сачыць і за поўным узростам карон. Непатрэбныя галінкі трэба ўкарачваць, зьняўшы зялёныя вяршынкі і пакінуўшы толькі 5—7 лісткоў. Лепш пакінуць у кароне 3 аснаўных галіны (ня больш 5), што павінна быць зроблена яшчэ ў маладым садзе.

Што тычыцца шкоднікаў саду, дык барацьбу з імі трэба пачынаць загадзьдзя ўвосень і вясной. Псуюць у нас яблыкі, а часам і ігрушы, вусені матылёў, яблынавая моль, цьветаед. Дзеля барацьбы са шкоднікамі агульныя мерапрыемствы—ўвосень і вясной—ачышчаюць кару, абмазваюць штамбы дрэў растворам вапны (1—1½ кіл. на вядро вады). Кароны апырскваюць таксама вапенным растворам. Улетку і да познай восені, або рана вясной на штамбы ў вышыні 1 метру ад зямлі завязваюць лоўчыя паясы з саломы, куды і зьбіраецца шмат шкоднікаў. Праз 1—2 тыдні паясы аглядаюцца і шкоднікі нішчацца.

На лоўчыя паясы трэба зьвярнуць нам больш увагі.

**М. Б.**

## Жывы баромэтр.

Баромэтр ёсьць прылада, якая больш-менш акуратна прадсказвае наперад зьмену пагоды. Сярод жывых істот ёсьць такія, што цалком могуць замяніць дарагакаштоўны баромэтр і ўважлівы гаспадар па іх дзеяньню можа ведаць наперад, якая настане зьмена пагоды. Такою істотаю зьяўляецца зялёная жабка, што жыве на дрэвах. У добрую пагоду яна лезе на верхнія часткі расьліны, а перад дажджом і бурай спускаецца ўніз, квакае і падлазіць пад лісток, ці іншае пакрыцьцё.

Калі такую жабку пасадзіць у высокі шкляны слоік і паставіць маленькую драбінку, дык жаба ў залежнасьці ад пагоды будзе ці лезьці ўгару, ці спускацца ўніз. Слоік трэба накрыць сеткаю, ці марляй, ды не запамінаць карміць жабку камаркамі. Гэтакі баромэтр можна трымаць у хаце.

## Парады агранома.

**Пытаньне.** У нашае вёсцы, а таксама і ў суседніх на жыта напала іржа, дзякуючы чаму зярняты, ня высьпеўшы, засыхаюць. Парадзьце, што трэба рабіць, каб у будучыне пазбавіцца іржы.

А. Рымдзёнак.

**Адказ.** Змагацца з іржой, як яна зьявіцца, немагчыма. Трэба папярэдзіць зьяўленьне на полі гэтае хваробы, дзеля чаго ня трэба ўжываць салому на подсьціл. Калі іншай рады няма, дык такі гной не вазіць пад жыта, ці пад другое збожжа, на якое нападае іржа, а лепш пад бульбу, караньплоды, гародніну і г. д. Больш усяго іржа нападае на сырыя землі, а таму такое поле трэба абавязкова асушыць ды ўнясьці вапны і фосфарнага ўгнаеньня. Рэкамэндуецца глыбокая ворка і радковы пасеў.

**Пытаньне.** Што трэба рабіць, калі добрую малочную карову „папсуе дрэннае вока“?

А. С.

**Адказ.** Сорам у наш век падымаць такое пытаньне. Па характару вашага пісьма відаць, што вы трохі чыталі, дык вам двойчы сорам. Чмуты, чараўнікі могуць „існаваць“ толькі сярод цёмнага люду, які яшчэ верыць розным забабонам. Вымя малочнай каровы вельмі складная і далікатная машына, у якой з крыві арганізму вырабляецца малако. Пры кожнай хваробе, якую часам гаспадар ня можа заўважыць, карова перастае даваць малако. Перастае карова даваць малако нават і здаровая, калі яна прышла ў ахвоту, ці яе раззлавалі і г. д. Псуецца малако таксама ад хваробы жывёлы і вымя, ці ад неправільнага даеньня. А што нашы даільніцы ня ўмеюць даіць—гэта факт. Даіць карову трэба ня двама пальцамі, якімі звычайна цягнуць нашы даільніцы за цыцку, але ўсей рукой, кулаком. Перад даеньнем вымя акуратна выцерці і зрабіць масаж (расьціраньне). Таксама насуха выцерці вымя і цыцкі і пасьля даеньня. Вось, калі гэта вы будзеце рабіць, дык менш будзеце верыць розным дурным плёткам.

**Пытаньне.** Што трэба рабіць, калі град адбіў жыта? Ці можна гэта поле абсеяць і чым?

**Адказ.** Пытаньне ваша трохі. трэба думаць, сёлета запозна. Звычайна пасьля жыта, зьбітага градам, сеюць такія збажжыны, якія ымагаюць мала часу для свайго

ўзросту. Гэтакімі расьлінамі зьяўляюцца: кармавая рэпа (турнэп), віка-аўсяная мешаніна на зялёны корм. Месцамі адсяваюць і лёнам на валакно. У апошнім выпадку лён ня сьпелюць на семя, а рвуць у часе цьвяценьня, ад чаго атрымліваецца яшчэ лепшае валакно.

---

## Некалькі парад для гаспадынь.

**Гарбата з пазёмак** (суніц, земляніці). Гарбата цяпер дарага каштуе, ды і ўжываць яе шкодна для здароўя. Танную і добрую пасмаку-гарбату можна зрабіць з пазёмак. Для гэтага трэба зьбіраць і сушыць (лепш на сонцы) маладое лісьцё, якое ўпакоўваюць у паперу і перахоўваюць у сухім месцы.

Калі да высушаных лісьцяў дадаць пазёмачнага цьвету ды ягад, дык па смаку гарбата пазёмачная ня будзе ўступаць і кітайскай.

**Як зрабіць фруктовы воцат?** Гаспадыні звычайна купляюць гатовы воцат, што дарага каштуе, а потым на рынку прадаюць замест воцту мурашчыны квас (мураўіная кіслата), што прыгатоўваецца з дрэва.

Кожная гаспадыня можа лёгка зрабіць танны, смачны і праўдзівы воцат. Для гэтага трэба зьбіраць яблыкі, хоць і зялёныя, дробна іх парэзаць і ссыпаць у высокую пасудзіну, як напр. стаўбун. На кожнае кілё (прыблізна $2^1/_2$ ф.) яблыкаў дадаць $1^1/_2$ літра (3 кварты) гатаванай вады, улажыць трохі звычайных драждžэй, наперад распушчаных у вадзе. Каб воцат быў мацнейшы, трэба на кожны кілограм яблыкаў падсыпаць 2—3 гарбатных ложкі цукру.

Пасудзіну закрываюць паперай, але так, каб паветра мела свабодны доступ у сярэдзіну пасудзіны і ставяць у цёплае месца. За два месяцы яблыкі перарабляюцца ў моцны і смачны воцат. Цяпер яго трэба перацадзіць цераз густое палатно (кужаль), ці вату і разьліць у бутэлькі, якія шчыльна затыкаюць карашком.

**Як квасіць гуркі хуткага ўжытку?** Каб мець хутка заквашаныя гуркі, трэба сырыя гуркі спаласнуць у вадзе, абцяць з абадвух бакоў канцы, укласьці шчыльна ў пасудзіну (стаўбун, слоік), дадаць галовак часныку, пакрыць вязкаю кміну, лаўровым лістом, заліць пасоленай цёплай вадой, завязаць і паставіць у кухні, каля печы на 2—3 дні, а потым вынесьці ў сховнік (вараўня, бакоўка, стопка і інш).

**Гуркі, заквашаныя ў працягу 24 гадзін.** Загатовіць гуркі, як апісана вышэй, але заліць 3-мя часткамі соленай вадой і 1 часткай жытняй рашчыны і дзяржаць у цяпле. За 24 гадзіны гуркі будуць гатовы для ўжытку.

(Сільскі Світ).

## Паштовая скрынка.

**Язэпу Трафімчыку.** Стацьцю вашу, „Як карміць па новаму спосабу кароў“ атрымалі, але для рэдакцыі „Сахі“ ваш спосаб кармленьня запраўды „новы“, так што мы ня можам яго зьмясьціць на старонках нашае часопісі. Колькі-б не давалі карове саломы і мякіны, правільнай нормы ня зробіць, бо трэба ведаць, што даваць звыш 25 ф. грубога корму карове—апошняя ня ў сілах ператравіць. Чытайце больш літэратуры по жывёлагадоўлі, дык самі пераканаецеся ў абмылковасьці таго, што думаеце другім раіць.

**Сяргею Качану.** Пробныя нумары выслалі. Рэдакцыя заджэржвае ўсе нумары „Сахі“ (першы разышоўся) і можа ў кожны час выслаць жадаючым.

**Піліпу Александровічу.** Пробны нумар выслалі, а далей будзем высылаць па дастаньні падпіскі.

**Сымону Сурыку.** Грошы дасталі, нумары выслалі. У „Сасе“ не зьмяшчаем абвесткі пра грошы, бо гэта заняло-б прыблізна палову кожнага нумару.

Выдавец сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ.